# НАВІНКІ

16 - 23 студзеня 2003 №2(81) Кошт свабодны


НАВІНКІ TV
Праграма тэлебачаньня
20-26 студзеня 2003

# Чатыры танкісты & сабака?

*Ці будзе пісаца бацька зь вялікай літары?*
Стар.14

**Дапамажы ААН знайсьці ў Садама зброю**



*Лябірынт на* ***стар. 6,11***

Буш застаўся бяз ножак. Падрабязнасьці катастрофы на стар. 3

## Чарговы скандал вакол паставак зброі Іраку зноў не абмінуў Беларусь

Арыштаваны нядаўна ў Ліванскім аэрапорце 12-тонны груз з вайсковай амуніцыяй нарабіў ужо шмат кепішу ў сьвеце. Ці жарт – сярод гуманітаркі й «хэпі-мілаў» знайшлі 600 шлемафонаў для танкістаў, танкісцкую форму й 240 адзінак абсталяваньня сувязі для танкаў. І ўвесь гэты набор, як мяркуюць у Ліване, накіроўваўся кантрабандай у Ірак. Аднак хто гэты добры дзядзя, што адправіў такі падарунак Садаму Хусэйну акурат напярэдадні магчымых вайсковых дзеяньняў супраць ЗША? Вядома ж, першым кандыдатам у сябры Багдаду залічылі нашага бацьку. На месцы былі арыштаваныя двое «танкістаў», якія суправаджалі груз з дакумэнтамі, паводле якіх і вызначылі, што груз быў адпраўленыз нашай Сінявокай. І хаця потым знайшлі адмазку, што груз, нібыта сьледаваў з Харватыі, зь Беларусі падазрэньняў ніхто не здымаў. Засталося вызначыць сабаку, якая здала груз?

## Напярэдадні вялікай прыватызацыі

Хвалі рынкавага сацыялізму ўсё мацней б'юць аб борт нашага вялікага карабля. Пасьля шумных разборак вакол «Нафтану» й «Славнефти», чарга падыходзіць да чарговага прамысловага гіганта – заводу «Гарызонт». Фактычна зараз адбываецца ягонае акцыянаваньне. Падобна, Беларусь пачынае ісьць заганным расейска-ўкраінскім шляхам прыватызацыі, калі з малатка былі пушчаныя рэнтабэльныя прадпрыемствы, пасьля чаго яны былі разабраныя на вінцікі й зьніклі ў кішэнях вядомых пэрсанажаў. Відаць, адным зь першых на транзыстары й чыпы будуць расьцягваць «Гарызонт». Хто патэнцыйны пакупнік? І хто будзе наступным?

ГАРАНТЫЙНЫЯ ЧАЛАВЕЧКІ
Комікс на стар.16


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №____

Нумар падпісаны да друку 16.01.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз.

# ГАРАНТЫЙНЫЯ ЧАЛАВЕЧКІ



Ніхто ўжо ня памятаў, калі ў сям'і зьявіўся тэлевізар «Гарызонт».



Ен працаваў так добра, бо ўнутры яго жыў гарантыйны чалавечак Пал Сэкамыч



А ў вольны час, Пал Сэкамыч хадзіў да свайго сябра Пылесосіны, як жыў у пыласосе «Філіпс»






І тут з заводу прыйшлі прадстаўнікі новых уладальнікаў.



І з Пал Сэкамычам быў складзены новы кантракт



Аднак ужо на наступны дзень з тэлевізарам пачаліся нейкія праблемы









Аднак на наступны дзень кабэль зноўку быў пераргрызены












Прыйшлося Пал Сэкамычу самастойна вырашаць сытуацыю.



Рапта пастка замкнулася сама сабой.



Раптам перад Пал Сэкамычам узьнік пацук-мутант. І гарантыйны чалавечак трапіў з адной пасткі ў іншую






У шэфе дэструктыўнай банды Пал Сэкамыч раптам прызнаў...









Пал Сэкамыч ужо быў падрыхтаваўся да лютых мук. Аднак дапамога прыйшла нечакана...



За ўхіленьне ад падаткаў акцыянэрнае таварыства было ліквідаванае, а лёс прадпрыемства застаўся невядомым









А тэлевізар працаваў усё горш і горш, пакуль нарэшце яго не прадалі з малатка...